жыве беларусь!

# РАНІЦА

1'90

ВЫДАНЬНЕ МАЛАДАЧАНСКАГА АДДЗЯЛЕНЬНЯ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ"



" КОЖНЫ ЧАЛАВЕК МАЕ ПРАВА НА СВАБОДУ ПЕРАКАНАНЬНЯЎ I НА СВАБОДНАЕ ВЫРАЖЭНЬНЕ IX; ГЭТА ПРАВА ЎКЛЮЧАЕ СВАБОДУ БЕСПЕРАШКОДНА ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА СВАІХ ПЕРАКАНАНЬНЯЎ I СВАБОДУ ШУКАЦЬ, АТРЫМЛІВАЦЬ I РАСПАЎСЮДЖВАЦЬ IНФАРМАЦЫЮ I ІДЭI ЛЮБЫМI СРОДКАМI I НЕЗАЛЕЖНА АД ДЗЯРЖАЎНЫХ ГРАНІЦ".

УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА. АРТ. 19.

## ГУЛЬНI Ў ДЭМАКРАТЫЮ

АпошнIм часам нашыя гарадскIя ўлады вельмI ахвотна скарыстоўваюць у сваёй прапагандзе такI козыр, як супрацоўнIцтва з " нефармаламI ". Яны заяўляюць: " Мы не супраць, зьбIрайцеся, абмяркоўвайце свае справы, працуйце." " КрывIч" дзейнIчае адкрыта, Маладачанскае аддзяленьне ТБМ Iмя ФранцIшка Скарыны – таксама. Загадчык IдэалягIчнага аддзела гаркама партыI А.А.Выбарнаў неяк заявIў: " А хто забараняе сябрам БНФ " Адраджэньне" працаваць адкрыта?" Але ўсё гэта толькI словы. Справы ж нашых " ай " айцоў горада" сьведчаць зусIм аб Iншым. Возьмем, напрыклад, гIсторыю з клубам выбаршчыкаў. Iдэя аб яго стварэньнI ўзьнIкла неўзабаве пасьля мIнулых выбараў народных дэпутатаў СССР I больш не зьнIкала. Яшчэ перад пачаткам цяперашняй выбарчай кампанII IнIцыятыўная група з прадстаўнIкоў БНФ распрацавала прыкладны статут клуба I зьвярнулася да гаркама камсамола з прапановай далучыцца I супрацоўнIчаць. Але камсамол, як вядома, не мае сваёй пазIцыI, свайго пункту гледжаньня, сваIх меркаваньняў. Таму, ад граху далей, ён I перадаў усе гэтыя справы партыйцам. IдэалягIчны аддзел гаркама партыI пайшоў на кантакт з IнIцыятыўнай групай, але тэрмIнова пастараўся распрацаваць I навязаць свой праект статута. Акрамя таго, рабIлася ўсё магчымае, каб зацягнуць правядзеньне сходу I стварэньне клуба.

Трэба адзначыць, што гаркам праявIў выдатныя мабIлIзацыйныя здольнасьцI I на ўстаноўчы сход клуба выбаршчыкаў па яго загаду зьявIўся ўвесь партыйна-гаспадарчы актыў горада, вельмI адмоўна настроены супраць " нефармалаў ". КалI сябры БНФ пачалI зьбiрацца на сход, канферэнц-зала цэнтральнай бIблIятэкI была ўжо практычна запоўнена партыйнымI функцыянерамI I наменклатурай. Вядома, што ў такIх варунках гаркаму ўдалося адвесьцI большасьць няўгодных яму кандыдатур I прасунуць у Савет клуба сваIх стаўленьнIкаў. У Савеце клуба з трынаццацI чалавек толькI чвэрць сябраў БНФ.

Але дзеля таго, каб не даць магчымасьцI нешта рабIць тым членам клуба, якIя хочуць актыўна ўдзельнIчаць у выбарчай кампанII, праводзіцца тактыка зацягваньня часу, бюракратызацыI клуба, і пераўтварэньня яго у нейкI дыскусIйны клуб. Нават ад членаў Савета клуба ў выбарчых камIсIях хаваюць Iнфармацыю ( вядома, не ад прадстаўнIкоў гаркама). ТакIм чынам, у цяперашнIм сваIм выглядзе клуб выбаршчыкаў зьяўляецца " мёртванароджаным дзIцём" I іграе на руку Iнтарэсам партакратыI.

Напрыклад, Саветам клуба былI распрацаваны рэзалюцыI мIтынга, якI адбыўся 7 студзеня на гарадзкIм стадыёне па IнIцыятыве Маладачанскай Рады БНФ " Адраджэньне" I прапанаваны ўдзельнIкам у якасьцI альтэрнатыўных БНФ. Прыкрываючыся клубам,, наменклатура жадае ўзяць пад свой кантроль дзейнасьць БНФ.

Аб якIм канструктыўным супрацоўнIцтве ўладаў з " нефармаламI" можа IсьцI гаворка, калI ўжо аплачаная I набраная аб'ява аб правядзеньнI афIцыйна дазволенага мIтынга ў апошнI момант была зьнята са старонак " Святла камунIзму" па званку зьверху. Як можна расцэньваць той факт, што шматтыражка ВА " Электрамодуль" " Приборостроитель" не пабаялася даць вялIкI I аб'ектыўны артыкул з мIтынга, а " орган гаркама I райкама" абмежаваўся невялIкай Iнфармацыяй, з якой мала што можна зразумець?

Гэта ўсё гульнI ў дэмакратыю напярэдаднI выбараў. Яны адразу скончацца, калI наменклатура атрымае на Iх верх. Сёньня адзIны выхад – у выбарах сапраўды дэмакратычных дэпутатаў

НI АДНАГО ГОЛАСУ ПАРТАКРАТАМ I НАМЕНКЛАТУРЫ!

МАЛАДАЧАНСКАЯ РАДА БНФ " АДРАДЖЭНЬНЕ".

АГЛЯД ДРУКУ

## ШТО АСЬВЯТЛЯЕ "СВЯТЛО КАМУНІЗМУ"

А сапраўды, як асьвятляе наша "раёнка" з такой прэтэнцыёзнай назвай некаторыя бакі нашага жыцьця? Трэба прызнаць, што вельмі аднабакова і тэндэнцыйна.

Узяць, напрыклад, "справу" Кедрыка і Беланавіча. Выступленьне Кедрыка на гарадской партканферэнцыі, скіраванае супраць мясцовых "прыкарытнікаў" і "хросных бацькоў" маладачанскай мафіі было ацэнена адназначна адмоўна. Пра тое, што камуніста Беланавіча (у той час галоўнага архітэктара горада) проста не дапусьцілі на канферэнцыю – ні слова! Затое з задавальненьнем быў перадрукаваны аператыўна сфабрыкаваны газэтай "Мінская праўда" артыкул "Парушынка ў чужым воку" (менавіта сфабрыкаваны, бо такую інфармацыю журналісту могуць даць толькі вельмі зацікаўленыя і высокапастаўленыя асобы з дапамогай "кампетэнтных органаў". Ахвотна паведамляла "Святло камунізму" аб пакараньнях, якія абрушыліся на непакорных, але сьціпла прамаўчала аб тым, што Юры ~~[illegible]~~ Беланавіч быў аднаўлены на сваёй пасадзе, што ў выніку бюракратычных гульняў у "рэарганізацыю" яго пасаду скасавалі і расправа за крытыку працягваецца.

У лагодных танах асьвятлялася кампанія па выбарах народных дэпутатаў СССР. І хаця "Святло камунізму" не апусьцілася да ўзроўню той жа "Працоўнай славы" (г. Валожын) ва ўсхваленьні "высокапастаўленага госьця з Менску" Г.С. Таразевіча, але не знайшла і сваёй пазіцыі ў пытаньнях безальтэрнатыўнасьці выбараў, не надрукавала адкрыты ліст суполкі "Крывіч" (зьмешчаны ў "Навінах" БНФ №5), абмежавалася хвалебнымі артыкуламі ў адрас афіцыйна зацьверджаных кандыдатаў у дэпутаты. Не было інфармацыі аб шматлікіх парушэньнях закона аб выбарах у ходзе перадвыбарчай кампаніі і саміх выбараў.

Тыя падзеі, якія нельга замаўчаць поўнасьцю, бо яны маюць вялікі грамадскі рэзананс, падаюцца ў настолькі скажоным выглядзе, што ніякай аб'ектыўнай інфармацыі атрымаць нельга. Так скажам, вельмі малая і сьціплая нататка зьявілася у "Святле камунізму" пасьля ўстаноўчага сходу і стварэньня Маладачанскага аддзяленьня ТБМ імя Францішка Скарыны (дарэчы, першага ў рэспубліцы).

А як быў асьветлены мітынг па абмеркаваньню законапраектаў па выбарах, склікан на гарадскім стадыёне па ініцыятыве Маладачанскай Рады БНФ "Адраджэньне". Не тое, што здымкаў, нават аб'ектыўнай карэспандэнцыі з гэтага важнага мерапрыемства на старонках "Святла камунізму" не зьявілася! У інфармацыі "На мітынгу" усё выкладзена так, што можна зразумець, быццам бы арганізатарамі былі гаркам партыі і гарвыканкам. Пра БНФ "Адраджэньне" – ніякай згадкі, хаця адна з рэзалюцый, прынятых на мітынгу, дзе па папярэдніх падліках прысутнічала каля чатырох тысяч чалавек, патрабавала ад Вярхоўнага Савета БССР рэгістрацыі БНФ і публікацыі ў друку яго Статута і Праграмы. Не зьявілася ў газэце і рэзалюцыя, прынятая на гэтым мітынгу адносна законапраектаў па выбарах. Ды што казаць, калі карэспандэнт рэспубліканскага радыё А.Лазоўскі выказаў тады сваё неразуменьне таго, што паведамленьне аб мітынгу было зьмешчана амаль сярод спачуваньняў, хаця па праву месца яму калі і не на першай старонцы, то ў больш бачным месцы. Ды і ў самой аб'яве, за якую заплачаны грошы, ініцыятыўнай групе было адмоўлена падкрэсьліць сваю прыналежнасьць да БНФ.

Ніяк не адрэагавала наша "раёнка" і на экалагічную акцыю пратэсту, наладжаную суполкай "Крывіч" ля межрайбазы супраць забруджваньня ручая, які ўпадае ва Ушу. Затое вельмі аператыўна адрэагавалі гарадскія ўлады і гараддзел МУС, які склаў пратаколы на сяброў суполкі "Крывіч", абвінавацілі іх у правядзеньні несанкцыянаванага мітынгу.

Палітыка строгай цэнзуры праводзіцца ў газэце і ў адносінах да мастацкіх твораў. Друкуюцца бязгуздыя і кан'юнктурныя вершы В.Носава. І, ў той жа час, адмаўляецца ў праве на публікацыю верша В.Шнуркевіча "Курапаты", які потым быў надрукаваны ў "ЛіМе". Хутчэй за ўсе, такі ж лёс чакае і наступны яго твор "Сьпявае Данчык".

Толькі дзякуючы намаганьням такіх журналістаў, як А.Манцэвіч, В.Маркелаў, Д.Харытонаў, на старонках "Святла камунізму" часам зьяўляюцца больш-менш аб'ектыўныя і не перадузятыя артыкулы. Інакш варта было б вярнуць нашай "раёнцы" тую назву, якую яна з гонарам насіла у свой час – "Сталінскі сьцяг"!

ЯЗЭП ДАРАДНЫ

## КАГО ДЗЯКАВАЦЬ?

20 лістапада 1989 г. маладачанцы былі зьдзіўлены незвычайным для нашага гораду відовішчам. Каля райвыканкама на пустым газавым балоне сядзеў чалавек. Побач знаходзіўся плакат наступнага зьместу: "Протестую против лимита газа". Справа ў тым, што 10 лістапада гэтага года жыхарам нашага горада і раёна паведамілі праз мясцовую газэту аб скарачэньні пастаўкі газу з 9 лістапада. Адзін балон – на 45 дзён незалежна ад колькасьці членаў сям'і.

І вось жыхар г.п. Радашкавічы, бацька чатырох дзяцей Міткевіч Леанід Мікалаевіч, узяўшы тыдзень адгулаў, аб'явіў галадоўку супраць ліміту газу.

Дзень выдаўся марозным, З вокон райвыканкама выглядвалі спалоханыя твары чыноўнікаў. Нехта, больш чуллівы, вынес паралон, каб

галадаючаму было зручней сядзець. Але ён адмовIўся. Недзе ў другой палове дня яму паведамIлI, што ён можа ехаць да хаты, а газ яму прывязуць. Але галадаючы быў упарты. ЛеанIд МIкалаевIч дбаў не толькI за сябе, але I за Iншыя шматдзетныя сем'I.

На наступны дзень павIнна была адбыцца сесIя раённага Савета народных дэпутатаў. Галадаючы ў час сесII – непрыемнае вIдовIшча, а МIткевIч зьбIраецца сядзець тут тыдзень. У мIлIцыю ня выклIчыш – ня тыя часы.

К вечару таго ж дня пытаньне было вырашана. Для усIх шматдзетных сем'яў лIмIт на газ быў зьняты. Гэтыя справы адбывалIся ў панядзелак, а ў аўторак 2I лIстапада ў мясцовай газэце зьявIўся артыкул "Што здарылася з газам", дзе растлумачвалася, што пакуты з газам выклIканы аварыямI на газаправодзе ў БашкIрыI, на АльметьеўскIм I ОльскIм нафтагазаапрацоўчых заводах, а таксама ў сувязI з не вельмI ашчаднымI адносIнамI да расходваньня газу самIх жыхароў. На наступны ж дзень, 22 лIстапада, ў той жа газэце зьявIлася аб'ява "Да ведама жыхароў горада I раёна" аб тым, што з 2I лIстапада I989 года зьнiмаюцца абмежаваньнI на прыём заказаў на дастаўку балонаў з газам. А як жа аварыI I ня вельмI ашчадныя адносIны да расходваньня газу? Каму быў патрэбны лIмIт на газ? Каму мы павIнны быць удзячны за яго скасаваньне: МIткевIчу ЛеанIду МIкалаевIчу, цI нашым уладам?

ТАЦЬЦЯНА ПЯТРОВIЧ.

---

Над народам чужыя "босы"
У бяздольнай нашай старане.
А народ, як рыба безгалосы,
МоўчкI карак перад IмI гне.

А народу сьнIцца сваё поле,
Што I ён у доме гаспадар.
А народу часам сьнIцца воля,
Як нябёсаў найсьвяцейшы дар.

СьнIцца, што зIбыта сам засеяў
На вясну свой хлебадайны край,
Ды за працу вырасьце надзеяй
Блаславёны ўласны ўраджай.
Песьня сьнIцца родная I мова,
Што з крывёй ад мацI ўвабраў.
I бяседы вечарам зIмовым,
Клопаты ля гаспадарскIх спраў.

Працаваць – было б на чым – ня цяжка,
Зажынаць сваё яшчэ лягчэй,
I здаецца ўжо далёкай казкай:
Гаспадарка, чарада дзяцей.
Сяньня дзецI ў сьвет Iдуць I гIнуць.
Не туды ўласны сын пайшоў...
Нат Iмя няма каму пакIнуць...
Стала пуста на зямлI дзядоў...

ЛАРЫСА ГЕНIЮШ

## ЖИТЬ ПО-ЛЕНИНСКИ.

С I-го октября I989 года ЦК КПСС принял решение о значительном повышении окладов работникам партийного аппарата. Постановление подписал Генеральный Секретарь ЦК КПСС М.С.Горбачев. Оно секретное в том смысле, что "Правде" не разрешили его печатать, чтобы рядовые коммунисты не знали, куда идут партийные взносы.

Прежние оклады партийных функционеров уже не устраивают. Они хотят получать зарплату на уровне советских кооператоров.



СРАВНИТЕ САМИ:

| ДОЛЖНОСТЬ. | ОКЛАД ДО ПОВЫШЕНИЯ | НОВЫЙ ОКЛАД |
|---|---|---|
| Инструктор обкома партии | 250 рублей | 370–400 руб. |
| Консультант, ответ-организатор | 270 | 400–420 |
| Зав. сектором | 270 | 450–470 |
| Зам.зав.отделом | 3I0 | 5I0–530 |
| Первый зам.зав. отделом | – | 550 |
| Зав. отделом | 380 | 600 |
| Секретарь обкома партии | 450–500 | 700–750 |
| Первый секретарь обкома партии | 550 | 850 |

Кроме того, партийные работники получают в виде праздничных пособий 3 оклада в год: к 7 ноября, к I Мая, к отпуску( лечебные).

Кроме того, партийные работники имеют право на семейные путевки ( с 80 % скидкой) в самых фешенебельных санаториях бывшего 4-го Главного Управления ( Кремлёвского) Минздрава СССР.

Кроме того, руководители обкома партии ( секретари обкома и заведующие отделами) имеют полулегальные дачи в Алуште ( под вывеской пансионата работников госучреждений "Море"). Основные расходы покрываются за счет госбюджета и партийных взносов.

Кроме того, тем же лицам продолжают возить на квартиры спецпайки ( "продуктовые четверги"), но делается это конспиративно, в тёмное время суток.

По-прежнему хозяева области и из обкома партии "хозяйничают" на продуктовых, промтоварных, книжных и лекарственных базах.

Кроме того, секретари обкомов партии, первые секретари горкомов и райкомов партии, заведующие отделами обкомов имеют право за счёт государства отселять взрослых детей в отдельные квартиры, хотя юридически это незаконно.

Информация Профсоюза независимых журналистов СССР.

Газета "Атмода" № I (58) 2.I.I990 г.

## ТРАГЕДЫЯ ЦІ ГАРМОНІЯ?

„Весь мир до основанья мы разрушим"

Хто скажа, менавIта якI год стаў пачаткам сатанIнскага вынIшчэньня назакольнага ася - родзьдзя на БеларусI? Нацыянальнае багацьце, край азёр, рэк I лясоў паступова пераўтвараецца ў саюзную нарыхтоўчую кантору. За кароткI час, без усялякай навуковай падставы, без улIку грамадскай думкI, з дапамогай мелIярацыI па загаду партыйных функцыянераў на БеларусI было вынIшчана амаль чвэрць рэк I азёр. МаляўнIчыя берагI I сенажацI заараны I пераўтвораны ў бульбяныя плантацыI. I вось апошняе, што засталося ад здратаванай прыроды, дакакаў напасьледак "мIрны атам". Прагрымеў Чарнобыль I на галавы беларусаўпаляцелI тысячы тон спрамяняючага пыла, якI павольна I паступова будзе забIваць нас, як павук забIвае сваю ахвяру. Замучаны I дэмаралIзаваны палIтыкай дэнацыяналIзацыI беларус жахлIва паглядае на свой ужо ня мIлы I не ўтульны родны кут. АдзIнае, што застаецца для беларуса - гэта стаць сапраўдным гаспадаром на сваёй спрадвечнай зямлI. КалI не - значыць па-халуйску працягваць задавальняць вялIкаIмперскIя запросы златаглавай Масквы. Без карысьцI для сябе, знIшчаючы сваю прыроду.

Маладэчна сваёй сталIнска-брэжнеўскай архIтэктурай ( Iнакш кажучы - савецкай) мала ў чым адрозьнIваецца ад Iншых гарадоў БеларусI. Але адзIнае, што можна заўважыць непадобнага на Iншыя гарады, гэта вялIкая чысьцIня I выдатны экалягIчны стан горада. Ва усялякIм разе, так заўляюць мясцовыя чыноўнIкI. Тут, як Ў лепшыя часы застою , нашы мясцовыя паны нават атрымлIваюць пераходныя сьцяжкI за лепшыя паказчыкI у ахове наваколььнага асяродзьдзя. Ці сапраўды гэта так?

Свае асабIстыя меркаваньнI я паспрабую перадаць табе, шаноўны чытач, трошкI у Iншым ракурсе, лепш кажучы, вачыма нефармала. НIшто ў нашым горадзе I блIзка не нагадвае Еўропу. ВелIзарныя сьметнIкI, якIмI нIхто не цIкавIцца, можна заўважыць паўсюль. Праўда, па IнIцыятыве аховы прыроды была арганIзавана экалягIчная гарадская канферэнцыя, якая праходзIла на заводзе ЗПМ. Давялося прысутнIчаць там I мне. АдзIнае, што мяне больш за ўсё зьдзIвIла на канферэнцыI, так гэта тое, што я не заўважыў многIх кIраўнIкоў прадпрыемстваў. Як бачыце , праблема чыстай вады I паветра ўвогуле не зьяўляецца для Iх нейкай праблемай. На канферэнцыI мне давялося пачуць I такое: прадпрыемствам ЗПМ былI закапаны нейкIя адходы вытворчасьцI. Гэта, як нас упэўнIваюць, бясшкодны жалезны парашок. УзьнIкае пытаньне: "КалI гэты парашок жалезны, дык навошта яго закапваць? Яго ж можна пераплавIць. Аднаму богу вядома, што яшчэ будуць закапваць I зьлIваць прадпрыемствы ў Маладэчна. Галоснасьць ~~яшчэ не трапiла~~ на старонкI афIцыйнага друку.

Не так даўно суполкай "Крывіч" была праведзена акцыя пратэсту, мэта якой скIравана на тое, каб зьвярнуць увагу грамадскасьцI на катастрафIчны лёс малых ручаёў I рэк, якIя I зараз моцна забруджваюцца некаторымI прадпрыемствамI. Непадалёку ад завода "Тэхаснастка" быў створаны пIкет для збору подпIсаў, якIя былI потым накIраваны ў гарвыканкам. МIлIцыя не перашкаджала правядзеньню акцыI. Але на другI дзень пракурор горада запатрабаваў прыцягнуць да ад - казнасьцI не кIраўнIкоў прадпрыемстваў, такIх як ЖБВ I ПЭС, якIя атручваюць ваду, а наадварот, грамадскага Iнспектара па ахове прыроды ВасIлеўскага В.Б., якI арганIзаваў гэту экалягIчную акцыю. Быў састаўлены пратакол, у якIм дзеяньнI ВасIлеўскага разглядалIся, як парушэньне правапарадку. Пасьля чаго ВасIлеўскI В.Б. быў выклIканы на адмIнIстрацыйную камIсIю да сакратара гарвыканкама т. Кулеўскага. На камIсII КулеўскI заявIў: "Вырашыць экалягIчныя праблемы ў горадзе мы ня можам, у нас няма ўлады." Даруйце, але ў каго ж яна. Як бачым, партыйнае I савецкае кIраўнIцтва нIчога не зьбIраецца вырашаць. Магчыма думаеце, шаноўны КулеўскI, спакойна дасядзець у сваIм крэсьле да пенсII, а потым у мяккIх тапках прасядзець ля тэлевIзара, дажыць да глыбокай старасьцI I спакойна памерцI? Але, як знаць! Усе ж мы будзем пIць ваду з аднаго крана. Каб не прыйшлося ўсIм нам у будучынI, I СтахоўскIм, I КулеўскIм памIраць не спакойна, а можа, нават, пакутлIва ад той атручваемай вады, на якую вы ўсе у гаркаме I выканкаме глядзIце з алIмпIйскIм спакоем!

У. СьвянцIцкI.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Гэты бюлетэнь Рады Маладачанскага аддзяленьня БНФ мае на мэце лIквIдаваць, у меру нашых магчымасьцяў I здольнасьцяў, той вакуум у сферы галоснасьцI, тую аднабаковасьць I тэндэнцыйнасьць нашага мясцовага афIцыйнага друку, якIя сталI магчымымI, дзякуючы манаполII КПСС на "кIруючую ролю". Мы прынцыпова ня згодны з тым, што толькI партыя, якая зьяўляецца "авангардам нашага грамадства", можа гарантаваць нам посьпех перабудовы I ўпэўнена прывесьцI нас "стройнай I згуртаванай" маўклIвай чарадой да "сьветлай будучынI сацыялIстычнай прававой дзяржавы".

Мы ўпэўнены, што не партыя, а добрая воля I дзеяньнI ўсяго народа, яго сьвядомасьць, актыўная грамадская пазIцыя могуць прывесьцI нас да перамогI над усIм тым кансерватыўным, закасьцянелым, злачынным, што пакIнула нам у спадчыну наша трагIчная гIсторыя I, у першую чаргу, усе тыя, хто стаяў ўсе гэтыя дзесяцIгодзьдзI ў нашым "авангардзе."

ВIдавочна, што першым крокам у гэтай барацьбе супраць антыгуманнай дзяржаўнай сIстэмы падаўленьня асобы зьяўляецца галоснасьць, плюралIзм Iдэй. Няхай наша "РанIца" будзе ў нашых мясьцIнах такIм першым, яшчэ няўпэўненым, але шчырым у намаганьнях крокам у гэтым напрамку.

РэдкалегIя.

Адрас для карэспандэнцыI: БССР, Менская вобл., г. Маладэчна, вул. Капуцкага, 25, МарыI.